*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года №20 (508) 16 ТРАЎНЯ 2001 г.

# НАСУСТРАЧ VII З'ЕЗДУ ТБМ

## Што такое Таварыства беларускай мовы?

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" – гэта добраахвотная **непалітычная** арга-



**Ніл Гілевіч, старшыня ТБМ у 1989-1997 гадах**

нізацыя, у якой аб'ядналіся прадстаўнікі беларускай ***нацыянальнай эліты*** з мэтай забеспячэння рэальнага дзяржаўнага статусу мове карэннага этнасу Беларусі. Наша дзейнасць накіравана на забеспячэнне правоў беларускамоўных грамадзян карыстацца сваёй роднай мовай. Мы **не выступаем** за абмежаванне правоў рускамоўнага насельніцтва, але **дамагаемся** павагі да роднай мовы беларусаў. Мы – афіцыйна дзейная, у рамках заканадаўства структура, зарэгістраваная Міністэрствам юстыцыі як некамерцыйная **грамадская арганізацыя**.

Ад моманту ўтварэння з 1989 па 1997 гады арганізацыяй кіраваў Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Яго дзейнасць у якасці старшыні ТБМ і старшыні Камісіі Вярхоўнага Савету 12 склікання па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны надала імпульс па вяртанню беларускай мовы ў грамадскае жыццё. Упершыню пасля 20-ці гадовага перапынку ў Менску адкрыліся першыя беларускія класы і школы. Беларускамоўная адукацыя пачала набываць элітарны статус. Кожная з беларускамоўных школ імкнулася атрымаць статус ліцэю, або гімназіі. Па-беларуску пачалі выкладацца асобныя прадметы ў ВНУ. Беларуская мова станавілася прэстыжнай, а яе носьбіт вызначаўся сваёй адукаванасцю.

У самы неспрыяльны для нашай арганізацыі перыяд з 1997 па 1999 гады, Таварыства ўзначаліў паэт Генадзь Бураўкін. Маючы вялікі досвед арганізацыйнай працы ў якасці старшыні Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні (1972-1990 гг.) і аўтарытэт Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (1990-1994 гг.), спадар Генадзь належным чынам справіўся з роллю "крызіснага менеджэра". ТБМ не толькі змагло выстаяць, але і значна актывізаваць сваю дзейнасць па ўсёй тэрыторыі нашай краіны і за яе межамі.

З 1999 года і па сённяшні дзень Таварыства ўзначальвае кандыдат гістарычных навук, вядомы грамадскі дзеяч Беларусі Алег Трусаў. Пад яго энергічным кіраўніцтвам ТБМ здолела ператварыцца ў сапраўдную агульнабеларускую арганізацыю. Структурныя падраздзяленні Таварыства дзейнічаюць у 73 рэгіёнах краіны са 118. Сябрамі ТБМ з'яўляюцца таксама жыхары Іркуцка, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Рыгі, Вільні, Беластока, Прагі. Вядзецца актыўная работа па распрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі, у якой прадугледжваецца компекс мерапрыемстваў, накіраваных на доўгатэрміновую перспектыву, а менавіта:

- стварэнне беларускамоўнага спадарожнікавага тэлеканала;
- арганізацыя дзейнасці сецевага (INTERNET) – партала для атрымання вышэйшай адукацыі беларускамоўнымі грамадзянамі ва універсітэтах Еўропы;
- адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэту;
- фукцыянаванне спеўных – клубаў для аматараў беларускай песні і г.д.

***Таварыства беларускай мовы выказвае шчырую зацікаўленасць у супрацоўніцтве з шырокім колам арганізацыяў, прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў і прыватных асоб, якія звязваюць сваю будучыню з Беларуссю і прыхільна ставяцца да роднай мовы беларусаў.***



**Генадзь Бураўкін, старшыня ТБМ у 1997-1999 гадах**

***Беларуская мова – гэта сучасная мова, у якой адлюстравана наша мінулае і сучаснасць, у якой будзе выказана наша будучыня***

***Беларуская мова – гэта нашая мова***

❖ Беларуская мова – гэта аснова і складовая частка кожнага з нас. Яна дае нам больш глыбокае разуменне саміх сябе. Яна звязвае нас з нашым мінулым.

❖ Беларуская мова – унікальная мова, створаная шматлікімі пакаленнямі нашых папярэднікаў дзеля таго, каб задавальняць нашы патрэбы, як патрэбы беларускага народа.

❖ Беларуская мова – наймацнейшая і найвыразнейшая прыкмета нашай нацыянальнай тоеснасці.

❖ Некаторыя людзі сутыкаюцца з гэтым упершыню, калі выязджаюць за мяжу. Вярнуўшыся, яны пачынаюць размаўляць па-беларуску, каб пацвердзіць сваю прыналежнасць да нацыі беларусаў.

***Ці ведаеце Вы?***

➢ *Што беларускай мове чатыры тысячы гадоў.*

➢ *Што кнігадрукаванне мастацкай літаратуры на беларускай мове пачалося на шмат раней, чым на рускай мове.*

➢ *Што ў часы Вялікага княства Літоўскага беларуская мова была не толькі дзяржаўнай, але і з'яўлялася мовай дыпламатычных зносін у Еўропе.*

➢ *Што самы вялікі збор фальклору ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы зафіксаваны на беларускай мове.*

➢ *Што беларуская мова і літаратура вывучаюцца ў 12 універсітэтах за межамі Беларусі.*

***Беларуская мова дае нам належнае бачанне***

❖ Наша бачанне свету і спосаб яго аналізу глыбока ўкаранёны ў беларускай мове. Беларуская мова дае нам арыгінальнае бачанне навакольнага свету, якое грунтуецца на гісторыі і досведзе беларускага народа.

❖ Яна ўзбуджае ў нас нацыянальную самапавагу, гонар тым, што мы беларусы. Яна дапамагае нам ставіцца да навакольнага свету станоўча і з даверам.

❖ Важнасць нацыянальнай мовы і культуры ў падтрымцы палітычнай і эканамічнай незалежнасці даўно ўсім вядомыя.

***Дзеці атрымліваюць карысць, вывучаючы беларускую мову***

❖ Вывучэнне беларускай мовы – гэта важны складовы элемент развіцця кожнага беларускага дзіцяці. Мы павінны стварыць ім як мага лепшыя магчымасці дзеля таго, каб яны маглі належным чынам ацаніць сваю культуру, сваю спадчыну.



**Алег Трусаў, старшыня ТБМ у 1999-2001 гадах**

❖ Вывучэнне беларускай мовы з малых гадоў добра дапамагае ў вывучэнні іншых моў, асабліва славянскіх і заходнееўрапейскіх. Яно пашырае інтэлектуальныя здольнасці дзіцяці і дае разуменне розных моўных структур. Беларуская мова дае дзецям давер да саміх сябе і ўменне працаваць з іншымі мовамі і культурамі.

❖ Беларуская мова была перададзена нам нашымі папярэднікамі. Справа гонару для нас перадаць яе наступным пакаленням

***Новае разуменне***

❖ Апошнім часам многія людзі прыходзяць да разумення важнасці беларускай мовы для іх жыцця, для жыцця іх дзяцей і для будучыні беларускага народа.

❖ Многія рускамоўныя бацькі накіроўваюць сваіх дзяцей у школы і дзіцячыя садкі з беларускай мовай навучання.

❖ Многія дарослыя апошнім часам самі імкнуцца навучыцца размаўляць па-беларуску.

***Ключ да нашага будучага развіцця***

❖ Беларуская мова мае вялікае значэнне для вызначэння нашай будучыні.

❖ Нашы рашэнні адносна нашай будучыні павінны зыходзіць ад нас саміх з разуменнем таго, што мы можам перадолець нашы праблемы, з таго, што мы незалежныя і пакладаемся самі на сябе.

❖ Падтрымка і ўзнаўленне ў правах нашай нацыянальнай мовы – гэта самы надзейны шлях да таго, каб мы сталі даваряць сабе як цывілізаванаму народу.

Сяброўскі білет сябра ТБМ імя Францішка Скарыны новага ўзору за № 1000 выпісаны 7 траўня 2001 года на імя Святланы Воранік з Берасцейскай гарадской арганізацыі. Яна запрошана на VII з'езд ТБМ. Віншуем!





# Што такое Таварыства беларускай мовы?

*Таварыства беларускай мовы гэта:*

1. Берасцейская гарадская арганізацыя
2. Столінская раённая арганізацыя
3. Пружанская раённая арганізацыя
4. Пінская гарадская арганізацыя
5. Пінская раённая арганізацыя
6. Бярозаўская раённая арганізацыя
7. Кобрынская суполка
8. Івацэвіцкая суполка
9. Баранавіцкая гарадская арганізацыя

10. Віцебская абласная арганізацыя
11. Віцебская гарадская арганізацыя
12. Віцебская раённая арганізацыя
13. Аршанская гарадская арганізацыя
14. Браслаўская суполка
15. Бешанковіцкая суполка
16. Верхнедзвінская раённая арганізацыя
17. Гарадоцкая раённая арганізацыя
18. Глыбоцкая раённая арганізацыя
19. Коханаўская суполка
20. Лёзенская суполка
21. Міёрская суполка
22. Наваполацкая гарадская арганізацыя
23. Полацкая гарадская арганізацыя
24. Полацкая раённая арганізацыя
25. Пастаўская раённая арганізацыя
26. Шуміленскія суполкі
27. Шаркаўшчынская раённая арганізацыя
28. Ушацкая раённая арганізацыя

29. Гарадзенская абласная арганізацыя
30. Гарадзенская гарадская арганізацыя
31. Гарадзенская раённая арганізацыя
32. Астравецкая суполка
33. Бярозаўская гарадская арганізацыя
34. Ваўкавыская рэгіянальная арганізацыя
35. Дзятлаўская раённая арганізацыя
36. Карэліцкія суполкі
37. Лідская гарадская арганізацыя
38. Лідская раённая арганізацыя
39. Мастоўская раённая арганізацыя
40. Навагарадская суполка "Ўзвышша"
41. Слонімскія суполкі
42. Смаргонская раённая арганізацыя

43. Гомельская абласная арганізацыя
44. Гомельская гарадская арганізацыя
45. Акцябрская раённая арганізацыя
46. Дабрынская суполка (Ельск)
47. Жлобінская гарадская арганізацыя
48. Жыткавіцкая раённая арганізацыя
49. Мазырская гарадская арганізацыя
50. Рэчыцкая суполка
51. Калінкавіцкая гарадская арганізацыя
52. Светлагорская гарадская арганізацыя
53. Магілёўская абласная арганізацыя
54. Магілёўская гарадская арганізацыя
55. Асіповіцкая раённая арганізацыя
56. Бабруйская суполка
57. Бялыніцкая гарадская арганізацыя
58. Горацкая раённая арганізацыя
59. Крычаўская суполка
60. Касцюковіцкая суполка
61. Мсціслаўская суполка
62. Хоцімская суполка
63. Чэрыкаўская суполка
64. Шклоўская раённая арганізацыя

65. Менская абласная арганізацыя
66. Барысаўская гарадская арганізацыя
67. Вілейская раённая арганізацыя
68. Жодзінская гарадская арганізацыя
69. Клецкая раённая арганізацыя
70. Крупская суполка
71. Маладзечанска гарадская арганізацыя
72. Маладзечанская раённая арганізацыя
73. Менская раённая арганізацыя
74. Мікуліцкая суполка (Беразіно)
75. Мядзельскія суполкі
76. Нясвіжская раённая арганізацыя
77. Салігорская гарадская арганізацыя
78. Старадарожская суполка
79. Смілавіцкая пасялковая арганізацыя
80. Смалявіцкая суполка
81. Слуцкая раённая арганізацыя
82. Стаўпецкая раённая арганізацыя
83. Пухавіцкая раённая арганізацыя
84. Уздзенская суполка

85. Менская гарадская арганізацыя
86. Першамайская раённая арганізацыя
87. Кастрычніцкая раённая арганізацыя
88. Партызанская раённая арганізацыя
89. Фрунзенская раённая арганізацыя
90. Ленінская раённая арганізацыя
91. Цэнтральная раённая арганізацыя
92. Маскоўская раённая арганізацыя
93. Савецкая раённая арганізацыя
94. Заводская раённая арганізацыя

95. Іркуцкая рада ТБМ
96. Маскоўская рада ТБМ
97. Санкт-Пецярбургская рада ТБМ
98. Віленская рада ТБМ
99. Рыжская рада ТБМ
100. Беластоцкая рада ТБМ
101. Пражская рада ТБМ
102. Севастопальская рада ТБМ

*Праект, прапанаваны Рэспубліканскай Радай ТБМ*

## Парадак дня і рэгламент працы VII з'езду ТБМ

8.00 – 9.30 – рэгістрацыя, Дом літаратара, г. Менск, вул. Фрунзе, 5.

9.30 – адкрыццё з'езду, Дом літаратара, г. Менск, вул. Фрунзе, 5.

9.30 – 9.45 – выбары мандатнай, падліковай і рэдакцыйнай камісій, сакратарыяту з'езду.

9.45 – 10.25 – вітальнае слова гасцей з'езду.

10.30 – 10.50 – даклад Старшыні ТБМ Алега Трусава "Асноўныя вынікі дзейнасці ТБМ у справаздачны перыяд (красавік 1999 - травень 2001 г. г.)".

10.50 -- 11.00 -- судаклад намесніка Старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч "Культурна-асветніцкая дзейнасць ТБМ".

11.00 – 11.10 – справаздачны даклад Старшыні Рэвізійнай камісіі ТБМ Уладзіміра Кішкурны.

11.10 – 11.20 – даклад галоўнага рэдактара "Нашага слова" Станіслава Судніка.

11.20 – 12.15 (3 – 5 хвілін) – спрэчкі па дакладах.

12.15 – 13.00 – выбары кіраўніцтва ТБМ. (Старшыня, намеснікі, Рада ТБМ, Рэвізійная камісія ТБМ, галоўны рэдактар газеты "Наша слова").

Прыняцце Пастановы з'езду "Аб сяброўстве ў Радзе ТБМ".

Прыняцце Палажэння "Аб рабоце Рэвізійнай камісіі ТБМ".

13.00 – 14.00 – перапынак на абед.

14.00 – 15.30 – інфармацы аб рабоце над Праектам "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі."

14.00 -- 14.10 -- інфармацыя Алега Трусава.

14.10 -- 14.30 -- інфармацыя Леаніда Лыча.

14.30 -- 14.50 -- інфармацыя Сяргея Запрудскага.

14.50 -- 15.00 -- інфармацыя Станіслава Судніка.

15.30 – 16.30 – абмеркаванне і прыняцце "Дэкларацыі аб беларускай мове".

16.35 – закрыццё з'езду.

16.45 – 17.00 – першае пасяджанне новай Рады ТБМ. (Абранне новага Сакратарыяту ТБМ. Зацверджанне складу рэдкалегіі газеты "Наша слова").

**Павел Сцяцко**

# Культура мовы

### ПРА АДМЫСЛОВАСЦЬ І НАТУРАЛЬНАСЦЬ МОВЫ ЎНІКАЛЬНАГА ВЫДАННЯ

***Прафесар Аляксей Пяткевіч, загадчык кафедры беларускай культуры Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, нядаўна выдаў унікальную кнігу "Людзі культуры з Гродзеншчы-ны" (Гродна: ГрДУ, 2000. – 356 с.). Гэта чарговае адмысловае выданне таленавітага навукоўца, арыгінальнае як сваім зместам, так і моваю.***

Кніга змяшчае каля 800 персаналіяў пра славутых людзей культуры заходняга рэгіёну Беларусі – Гарадзеншчыны. У прадмове "Ад аўтара" даследчык слушна піша: "Людзі ж павінны ведаць сваіх вядомых землякоў – продкаў і сучаснікаў, якія шмат зрабілі дзеля Бацькаўшчыны, дзеля дабра і хараства на зямлі. А ведаць – значыць і цаніць, і шанаваць, і ганарыцца. Таму выданне мусіць дапамагчы чытачу самаўсведамляцца, належна трактаваць сябе і суродзічаў, будзіць пачуццё годнасці, без якога няма асобы, будзіць урэшце, пачуццё патрыятызму" (с.3).

У даведніку падаюцца звесткі пра асобаў, якія "пакінулі прыкметны след у культуры краю, культуры Беларусі і свету".

Без сумневу кніга прафесара А. Пяткевіча паспяхова будзе выконваць сваё прызначэнне – "будзіць пачуццё годнасці, пачуццё патрыятызму", гонару за свой край, родную Бацькаўшчыну Беларусь.

У нашай рубрыцы мы звернем увагу на адмысловасць і натуральнасць мовы гэтага выдання. І найперш – на формы іменаў і іменаў па бацьку гэтага даведніка. У кнізе падаюцца імёны ў натуральнай беларускай форме – без штучных канцавінаў (фіналаў) *–ій, -ый:* Анатоль, Апанас, Аркадзь, Арсень, Васіль, Вінцэсь, Кандрат, Рыгор і пад. І ў імёнах па бацьку няма ў напісаннях мяккага знака *(ь)*, які паказвае па суфіксаве *"й"* – варыянт фіналі *–ій, -ый*, як гэта бачым у трасянкавай мове некатарых перыядычных выданняў. Да прыкладу, Анатольевіч (вымаўляем напісанае: Анатол'йэв'іч) Васільевіч (Вас'іл'йэв'іч). Так, на с.17 даведніка "Людзі культуры з Гродзеншчыны" чытаем: "Анішчык Аркадзь Аркадзевіч", на іншых: "Антон Васілевіч Баліцкі" (с.22).

Няма ў даведніку і штучнага імя Іосіф, форма якога парушае закон гармоніі гукаў беларускай мовы (збег галосных у межах адной марфемы). Замест яго выкарыстоўваюцца ў даведніку натуральныя беларускія нацыянальныя імёны Восіп і Язэп: Кавалеўскі Восіп Міхайлавіч (с.120), Германовіч Язэп Станіслававіч (с.8). Ад іх і формы іменаў па бацьку: Багдзевіч Анатоль Восіпавіч (с.20).

Бачым у кнізе і такія нацыянальна-адметныя імёны беларусаў, як Алесь, Мікола, Міхась, Пятрусь... Праўда, яны, як і ў "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі", не прызнаюцца за афіцыйныя і ў дужках пасля іх паказваецца афіцыйная (звычайна расейскамоўная) форма: Белакоз Алесь (Аляксандр Мікалаевіч,с.27), Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч, с.271), Даніловіч Мікола (Мікалай Аляксандравіч, с.81). Аднак гэтая савецкая "інтэрнацыянальная" практыка "БелСЭ" ужо адкінута ў выданнях незалежнай Рэспублікі Беларусь, бо гэтак званыя "гутарковыя формы" іменаў (паводле савецкай традыцыі) у суверэннай Беларусі вызнаюцца, як афіцыйныя, дакументавыя. Так, у кнізе "Беларуская мова: Энцыклапедыя" (Мн., Белар. энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1994) падаюцца: Міхась Ціханавіч Лынькоў, Пятро Фёдаравіч Глебка і пад.

І ў сучасным перыядычным навуковым друку, як афіцыйныя, выкарыстоўваюцца нацыянальна-беларускія імёны. Да прыкладу, у штомесячным навукова-метадычным часопісе Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Роднае слова" (1999. №10) чытаем: "Галоўны рэдактар Міхась Шавыркін. Рэдакцыйная калегія: Алесь Бельскі, Мікола Мішчанчук, Міхась Скобла...". У часопісе "Беларусь" (1999. №12): "Часопіс рэдагавалі: Міхась Чарот (1930-1932), Мікола Хведаровіч (1932 – 1933)...".

Бачым у даведніку і натуральныя формы жаночых іменаў: Тацяна (Маліноўская Тацяна Рыгораўна, с.197), Жана (Сіплівеня Жана Сямёнаўна, с.269), Наталля ды інш. А таксама імёны па бацьку: Сідаровіч Васіль Лукашавіч (с.266), Бічэль Данута Янаўна (с.32)...

Аўтар кнігі "Людзі культуры з Гродзеншчыны" свядома не прымае і іншых аспектаў савецкай расейска-беларускай моўнай трасянкі, напрыклад, дзеяслоўных формаў з суфіксамі *–уч- (-юч-), -ач-(-яч-)*. У кнізе чытаем: "на кіраўнічай рабоце" (с.25) (а не "кірующай"). Выкарыстоўваюцца натуральныя словаформы роднага склону множнага ліку з канчаткамі *–аў (-яў)* (на месцы трасянкавага *–ей* ці нулявога канчатка): *фізічных якасцяў* (с.110), *лінгвістычных дысцыплінаў* (с.136), *замежных моў* (с.35).

З прыемнасцю заўважаем у даведніку выкарыстаныя знакамітым аўтарам адмысловая беларуская




словы: *рада* (а не штучнае, бескаранёвае ў нашай мове пазычанне *савет*): на с.25 чытаем: "Сябра Вучонай Рады Гродзенскага педінстытута", *філія, вучэльня* "Плешчаніцкая філія Мінскай вучэльні" (с.110), *управа*: "З 1997 – першы намеснік старшыні ўправы Саюза беларускіх пісьменнікаў" (пра Іпатаву В. М., с.119), *выстава, медычны* (факультэт), з сям'і *лекара* ды іншыя.

Справядліва выкарыстоўваюцца прафесарам А. Пяткевічам натуральныя формы складаных прыметнікаў, якія маюць прыметнікавую аснову ў абедзвюх сваіх частках: *фізічна-матэматычны факультэт, гістарычна-філалагічны і гістарычна-педагагічны факультэт*. Праўда, сустрэлася і *геолага-геаграфічны* (на месцы *геалагічна-геаграфічны*).

У абсяжным даведніку (356 старонак) не ўдалося ўсё дагледзець. Сустракаюцца асобныя арфаграфічныя недакладнасці: *Прэабражэнскі* замест нарматыўнага *Праабражэнскі* (с.241), *Маладзечненская семінарыя* (с.103) на месцы правільнага *Маладзечанская* (з суфіксам *–ск-*, а не рас. *–енск-*), *Н'ю-Йорк*, якое трэба пісаць *Нью-Ёрк* (як і "Родным слове", "Полымі" і інш.), бо мяккі знак тут служыць для абазначэння мяккасці першага гука *[н']*, а спалучэнне *"йо"* абазначаецца літарай *"ё"* (параўн.: *ёд* (рас. *йод*).

Сканчаючы гаворку пра адмысловасць мовы даведніка "Людзі культуры з Гродзеншчыны", хачу яшчэ падкрэсліць: слынны навуковец і педагог прафесар Аляксей Пяткевіч ідзе ў нагу з адраджэнцкімі тэндэнцыямі, выкарыстоўвае моўныя адзінкі, якія адпавядаюць сістэмна-структурным заканамернасцям беларускай нацыянальнай мовы, свядома не прымаючы беларуска-расейскай моўнай трасянкі, якая запаланіла акадэмічныя слоўнікі і іншыя афіцыйныя выданні.

Даведнік "Людзі культуры з Гродзеншчыны" з поспехам будзе спрыяць беларускаму нацыянальна-культурнаму адраджэнню як сваім зместам, так і адмысловасцю мовы.





# "Ніхто за нас не збудуе беларускі дом"

### Што думаюць суайчыннікі пра Трэці з'езд беларусаў свету?

Як ужо паведамлялася, МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" склікае агульнанцыянальны форум – Трэці з'езд беларусаў свету ў Менску 5-6 ліпеня 2001 года. Каб грунтоўна падрыхтавацца да яго, улічыць інтарэсы ўсёй, такой неаднароднай, дыяспары, узбагаціцца новымі ідэямі, Рабочая група па падрыхтоўцы з'езду звярнулася да ўсіх беларусаў замежжа разглядзець прапановы, распрацаваныя ёю, і выказаць свае меркаванні па асноўных пытаннях з'езду, свой пункт гледжання на дзейнасць "Бацькаўшчыны" сёння і пасля з'езду, адказаць на такія, здавалася б, простыя пытанні: што нам рабіць? Куды ісці далей? "Бацькаўшчына" хацела б далучыць як мага больш нашых суайчыннікаў да падрыхтоўкі і правядзення Трэцяга з'езду беларусаў свету. І гэта, на наш погляд, абгрунтаваны падыход да такой сур'ёзнай і надзвычай адказнай справы, як правядзенне форуму суайчыннікаў: не навязваць зверху, толькі сваё бачанне праблем, а прыслухацца і да думкі іншых, улічыць і нашыя погляды і, прааналізаваўшы ўсё, выпрацаваць найбольш аптымальную канцэпцыю з'езду, а значыць – і праграму далейшай дзейнасці "Бацькаўшчыны".

Прыйшлі першыя адказы на анкету "Бацькаўшчыны", дасланую ў замежныя беларускія суполкі. І яны цешаць, бо даюць багатую пажыву для роздуму, падказваюць шляхі ўдасканалення нашай працы і разам з тым ставяць няпростыя пытанні стратэгіі і тактыкі нашай арганізацыі. Ужо галоўная мэта з'езду, вылучаная "Бацькаўшчынай", - кансалідацыя беларускай нацыі, умацаванне беларускай супольнасці, выяўлення ідэалаў, волі і чаканняў усіх беларусаў свету, - выклікае дыяметральна супрацьлеглыя ацэнкі. "Пасадзіць усіх беларусаў у адну лодку – нерэальнасць, бо вельмі па-рознаму яны разумеюць паняцце "беларушчыны", - лічыць Генадзь Лех, старшыня Таварыства беларускай культуры з Масквы. – Жыццё будзе вымушаць ЗБС рабіць свой выбар".

А Пятрусь Капчык з Украіны займае яшчэ больш радыкальныя пазіцыі. "Як відаць, летам г. г. у Менску адбудзецца аж два з'езды беларусаў замежжа. Ці будзе гэта на карысць нам?! Я лічу, што ў такой сітуацыі з'езд "Бацькаўшчыны" праводзіць у Менску немагчыма! Думаю, што яго трэба перанесці ў Беласток, каб у нас пад нагамі не блыталіся розныя... Няхай яны ўжо едуць на свой "з'езд" у Менск".

Вядома ж самае простае – пасварыцца і разыйсціся па розныя бакі барыкад, вызначаючы стары савецкі лозунг: "Хто не з намі – той супраць нас". Пераканаць свайго апанента ў неаспрэчнай вартасці нашых ідэалаў – справа куды больш складаная. Але ж будуць і такія, хто прыедзе і на наш, і на іх з'езд. Да каго залічыць іх?

І ўсё ж большасць тых, хто даслаў свае прапановы і меркаванні накont месца і ролі ЗБС "Бацькаўшчына" ў грамадскім жыцці, падтрымліваюцца іншай думкі, відаць, больш канструктыўнай. Трапна і дакладна яе сфармулявала Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Каардынацынага камітэту беларусаў Канады. Таму дазволім сабе прывесці ладны абзац з яе ліста.

"Я цалкам згодная з кіраўніцтвам ЗБС "Бацькаўшчына", з ягоным кірункам і планамі дзеяння. Вельмі добра, што існуе ў нас такая арганізацыя, якая стараецца быць духоўным лучнікам усяго беларускага народу на Бацькаўшчыне і за мяжой. Прызнаю, што ЗБС "Бацькаўшчына" патрэбна нам болей, як калі, якраз у сённяшніх цяжкіх абставінах. Гэтыя абставіны можа змяніць на лепшыя толькі сам беларускі народ...".

У асноўным ухваляючы прапановы, распрацаваныя Рабочай групай па падрыхтоўцы Трэцяга з'езду беларусаў свету, аўтары дописаў маюць і нешта сваё дадаць. Гэта "сваё" якраз і ўяўляе практычны інтарэс, узбагачае праграму "Бацькаўшчыны". Хто не пагодзіцца з тым, што добра было б праводзіць святы беларускай песні, выставы беларускіх мастакоў па чарзе ў адной з краін кампактнага пражывання беларусаў з удзелам як мясцовых самадзейных артыстаў, так і гасцей з Беларусі. Такую прапанову ўнёс П. Капчык. Алесь Карповіч з Латвіі ставіць іншае пытанне: ці не пара ўжо пачаць ствараць цэнтраў беларускай культуры ў дзяржавах, дзе ёсць беларуская дыяспара. Ян Чыквін з Бельска-Падляскага (Польшча) слушна дамагаецца, каб беларусы Беласточчыны мелі доступ да беларускіх кніг і прэсы. На яго думку, Нацыянальная бібліятэка ў Менску магла б гэтую місію ўзяць на сябе ды хоць у нейкай ступені забяспечваць "тутэйшае пісьмовае асяроддзе навінамі друку". Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны ў Вільні Юры Гіль заклапочаны тым, што не праводзяцца сістэматычна семінары для кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Пільную патрэбу стварэння і рэалізацыі адзінай інфармацыйнай прасторы беларускага этнасу бачыць Язэп Паўловіч з Германіі. Ён жа прапануе "Бацькаўшчыне" сумесна з ТБМ "зрабіць усё, каб пашырыць уплыў нашае мовы і ўсімі сродкамі спрыяць вяртанню годнасці беларускаму народу".

Ёсць нямала канкрэтных вузкарэлігійных прапаноў, што актуальныя для адных замежных беларусаў і зусім не цікавяць іншых. Напрыклад, лібералізацыя візавага рэжыму непакоіць беларусаў Балтыі, але такая праблема не існуе для беларусаў Польшчы. Ды ўсё гэта маленькія праблемы ў параўнанні з галоўнай. Што ж найбольш трывожыць кожнага? Ёсць адно напружана-драматычнае пытанне, на якое ўсе чакаюць яснага адказу. У лісце Ю. Весялкоўскі з Лондана гэтая сакраментальная думка выказана па-беларуксу далікатна, проста, але пераканаўча і настойліва: "Маім жаданнем ёсць, каб Беларусь захавала сваю дзяржаўную незалежнасць і родную мову". Думку Ю. Весялкоўскага хочацца завершыць эмацыянальна-узрушанай максімай спадарыні Раісы Жук-Грышкевіч: "Калі чалавек шануе, любіць матчыну мову, - ён мае беларускую душу. Няма беларускае мовы – няма беларускае душы. А хто без беларускае душы будзе змагацца за незалежнасць Беларусі, за яе пазітыўныя перспектывы?!"

Раіса Жук-Грышкевіч катэгарычная ў сваёй перакананасці: "Незалежнасць Беларусі ёсць паратункам для нашай нацыі. Гэта ёсць і павінна быць мэтай усяго беларускага народу".

Па прызнанню суайчыннікаў, такія лісты-анкеты "Бацькаўшчыны" не толькі выклікаюць натуральную цікавасць, але і дазваляюць распачаць шырокае абмеркаванне заўваг і прапаноў беларускай дыяспары напярэдадні Трэцяга з'езду беларусаў свету.

Чакаем новых лістоў, новых думак і прапаноў. Упэўнены, што гэта на карысць справе.

*Вацлаў Мацкевіч.*

# Сланы Ганібала




Гэтая гісторыя пачалася тады, калі на тваёй полацкай вуліцы быў толькі адзін тэлевізар, глядзець які да Цымэрманаў увечары набівалася чалавек па трыццаць. Але табе болей падабалася хадзіць у раённую дзіцячую бібліятэку. На яе паліцах ты і знайшоў аднойчы кніжку пад загадкава-вабнай назваю – "Сланы Ганібала".

Праўда, з твару гэты намаляваны на вокладцы Ганібал быў падазрона падобны да дзядзькі Грышы Цымэрмана, які рамантаваў на рынку абутак. Але хутка выявілася, што падабенства мела цалкам выпадковы характар. Ганібалавага бацьку клікалі не Абрамам, а Гамількарам. Тэле-візара ў Ганібала не было, затое ён камандаваў вой-скам старажытнага Карфа-гену, ваяваў супроць Рыму і разам са сваімі баявымі сланамі зьдзейсніў бліскучы паход праз Пірэнэі і Альпы.

У тое лета вы колькі разоў гулялі на ўтравелых полацкіх вуліцах у вайну Карфагену з Рымам. У вайсковых дзеяньнях на баку карфагенцаў, бралі ўдзел і баявыя сланы. Сланом згаджаўся быць твой сябар Вова Цымэрман, дужы габрэйскі хлопчык, які зь пятае клясы займаўся не шахматамі, а вольнай барацьбой і вазіў цябе на плячах лёгка, як ката.

Ад таго часу праміне цэлае жыццё, у якім Карфаген ніколі ня будзе тваёй запаветнаю марай. Ты нават ня будзеш ведаць, якую візу трэба атрымліваць, каб пераканацца, што знакамітая пастанова рымскага сэнату пасьпяхова выкананая і родны горад Ганібала разбураны.

Аднак пакручастаму сюжэту твайго жыцьця будзе заўгодна, каб першай афрыканскаю краінай, куды цябе закіне, стаў Туніс, дзе ты ўсьпешна даведаесься, што валадар грозных сланоў рос і сталеў зусім побач з цэнтральным сталічным пляцам Тунісу, які носіць імя 7 лістапада.

У гэты дзень на тэле-экранах аднойчы зьвіўся прэм'ер-міністр Бэн Алі, які сурова растлумачыў суграмадзянам, што нястомныя клопаты пра стабільнасць дзяржавы падтачылі магутнае некалі здароўе ўсенароднага абранага першага прэзыдэнта незалежнага Тунісу Хабіба Бургібы. Цяпер па шматлікіх просьбах працоўных арабаў і бэрбэраў краінаю парулюе ён, Бэн Алі, або, у перакладзе, проста сын Алі, а па-нашаму Сашы.

Сярод безьлічы партрэтаў, зь якіх новы бацька нацыі сочыць, як дзейнічае яго забарона на дзейнасьць палітычных партыяў, ты і адшукаеш абвестку з запрашэньнем наведаць Карфаген, а пералічыўшы свае дынары, з радасным зьдзіўленьнем пазнаеш на адной з купюраў сэміцкі профіль дзядзькі Грышы Цымэрмана.

Праз паўгадзіны ў абладзе салодкіх згадак маленства ты ўжо будзеш ісьці па карфагенскіх прысадах, густоўна аздобленых маленькімі саркафагамі з прахам ахвяраваных богу Ваалу немаўляткаў. На пунійскіх калёнах ня будзе партрэтаў Бэн Алі. Адпачываючы ад рызыкоўных палітычных аналёгіяў, ты навядзеш фотаапарат на архітэктурны краявід і ледзьве пасьпееш пстрыкнуць, як з-за разгалістага кактусу падымецца двухмэтровы чалавек у цывільным, што без тлумачэнняў засьвеціць табе стужку. Толькі пасьля ты заўважыш замаскаваныя БТР-ы і стамлёна падумаеш, якія гэтыя ўладары аднолькавыя і як фатальна іх цягне да вечнасьці: адзін здае на вечнае захаваньне сваю канстытуцыю з аўтографамі, другі будуе палац побач са старажытным сьвяцілішчам Тафэль.

Ты разьвернесься да рэзідэнцыі Бэн Алі сьпіной і тым мейсцам, дзе яна губляе сваё гордае найменьне і на сапфіравай асноведзі мора зьнячэўку ўбачыш юную бляндынку з валасамі колеру плятыны і амаль свойскім імем Аўшра, што па-літоўску азначае Заранка.

Мова, на якой вы будзеце размаўляць, у гэтых мясьцінах не падасца табе чужою. Аўшра будзе вывучаць гісторыю і ведаць, што карфагенская культура мела тую дзіўную асаблівасьць, што не стварыла прыгожага пісьменства. Ты адзначыш, што Аўшра прыкметна вышэйшая за цябе, але гэтая трывожная акалічнасьць не перашкодзіць твайму натхнёнаму ўяўленьню, што буйна закалаціцца самымі сьмелымі мроямі.

Якраз тут да вас і падыйдзе невысокі, зацягнуты ў скуру эўрапеец, якому твая суразмоўніца магла б быць за ўнучку. У зялёных вачах аб'екту тваіх каласістых мрояў мільгане лёгкая разгубленасьць, і Аўшра растлумачыць, што гэта яе каханак з Гамбургу.

Каханак па-гаспадарску возьме тваю нязьдзейсьненую мару за тонкую талію і павядзе яе да тэрмаў імпэратара Антонія. Гледзячы ўсьлед, ты адразу знойдзеш у постаці Аўшры некалькі істотных хібаў. Але гэтага дзеля суцяшэньня будзе відавочна недастаткова.

Ты прысядзеш на адбітую капітэль, заплюшчыўшы вочы, прыслухаесься да ветру, і мудры антычны вецер, які памятае велічны поступ сланоў Ганібала, пашле табе сапраўднае суцяшэньне. Ты раптам зразумееш, што Карфаген прайграў Рыму і ўрэшце загінуў менавіта таму, што ня меў такой дробязі як карфагенская мастацкая літаратура.

Значыцца, яшчэ ня ўсё страчана. Асабліва калі ўлічыць, што тыя пэрыяды гісторыі, якія потым называюць "залатым векам", у тваёй краіне маюць уласьцівасьць праз кожныя 500 гадоў паўтарацца. Бо апошні "залаты век" скончыўся ў ХУІ стагодзьдзі, а табе наканавана яшчэ нейкі час пабадзяцца па сьвеце і пасядзець за пісьмовым сталом у стагодзьдзі XXI-м.

*Уладзімер Арлоў.*

*Эсэ напісана для перадачы "Дазвол на выезд" Беларускай службы "Радыё*



# ...НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

*Паводле вынікаў перапісу насельніцтва 1999 года 73,7 % грамадзян Беларусі прызнаюць беларускую мову роднай...*

*З дакументаў.*

"Нацыянальная тэма і шляхі кансалідацыі грамадства" – гэта тэма апошняй канферэнцыі, якую 25 лютага гэтага года ладзілі грамадскія аб'яднанні "Цэнтр па правах чалавека" і Таварыства беларускай мовы. З'ехаўшыся з усёй Беларусі, лідэры ТБМ у мініяцюры ўвасобілі ўсю нашу краіну. У пачатку XXI стагоддзя самымі свядомымі беларусамі была зроблена спроба ацаніць наша сёння, азірнуўшыся на той шлях Беларусі і яе народа, які вымяраецца эрамі, стагоддзямі,эпохамі, гадамі, днямі і... імгненнямі.

Няпросты быў гэты шлях...

Гісторыя нашага народа ўяўляе сабой, як было заўважана выступоўцамі, шэраг падзенняў і ўзлётаў.Назіраецца дзіўная заканамернасць, што кожнае стагоддзе пачыналася з трагедыі для нашага краю: XI стагоддзе было азмрочана смерцю Рагнеды і яе сына Ізяслава, у пачатку XII стагоддзя не стала славутага Усяслава Чарадзея, у XIII стагоддзі крыжакі, адбудаваўшы Рыгу, адрэзалі Полацк ад Балтыйскага мора, XIV стагоддзе пачалося з нападаў крыжакоў на нашу зямлю. Пачатак XV стагоддзя быў азмрочаны паражэннем Вітаўта на рацэ Ворскле, XVI стагоддзе пачалося з нападу маскоўскіх войскаў на Смаленскую, Аршанскую, Мсціслаўскую, Віцебскую, Полацкую ды іншыя нашыя землі. У пачатку XVII стагоддзя Беларусь напаткаў страшэнны голад, а ў XVIII стагоддзі пачалася Паўночная вайна (1700-1721), якая цягнулася больш дваццаці гадоў. У першай палове XIX стагоддзя Беларусь страціла нават сваю назву, а XX стагоддзе прынесла пажар 1 сусветнай вайны.

Можна толькі здзіўляцца, як у такіх умовах лінія жыцця і развіцця нашага народа не парвалася канчаткова, не згарэла ў пажарах спусташальных войнаў, не спыніла сваё наступальнае развіццё... Наадварот, кожны такі спад прадугледжваў чарговы ўздым развіцця і станаўлення беларускай нацыі, фармаванне новай нацыянальнай ідэі, якая кансалідавала народ. Такія працэсы ва ўсе часы прынята было называць "Адраджэннем". І кожны такі працэс заўсёды меў свае асаблівасці, бо і кожнае стагоддзе несла нешта сваё.

Так, да прыкладу, у пачатку XIX стагоддзя справу адраджэння распачалі вучоныя, прафесары Віленскага універсітэта на чале з Міхайлам Баброўскім і Ігнатам Даніловічам. У свой час яны марылі пра аднаўленне незалежнага Вялікага княства Літоўскага, аб вяртанні дзяржаўнага статусу беларускай мове і пра унію як нацыянальную рэлігію. Гэта і было нараджэннем нацыянальнай праграмы па ўсіх кірунках палітычным, культурным і рэлігійным. Была і яе эпахальная асаблівасць, што добра разумелі вучоныя, а таму імкнуліся нацыю ператварыць у ідэйна аб'яднаную супольнасць. Абапіраючыся на Скарынаўскую Біблію і Статут Вялікага княства Літоўскага, як на сімвалы нацыянальнай годнасці, Баброўскі і Даніловіч імкнуліся ўзняць беларускае пытанне на вышыню, вартую гісторыі нашага народа, і тым самым ідэйна кансалідаваць нацыю.

У XX стагоддзе беларускі народ уваходзіў пасіўна, уваходзіў жыхаром "Северо-западного края", чужаком на сваёй зямлі, народам без Бацькаўшчыны, ізаляваным ад сваёй гісторыі, мовы, адукацыі, культуры, уваходзіў з яўнымі прыкметамі распаду нацыі. Сутнасць трагедыі лёсу Беларусі і беларускага народа глыбока зразумеў народны паэт і прарок Адраджэння XX стагоддзя Янка Купала. Таму і распачаў ён свой творчы шлях, як публіцыст. Купалу – публіцыста хвалявалі многія грамадскія праблемы, але можна ў усёй упэўненасцю сцвярджаць, што найвышэйшай і найгалоўнейшай справай ён лічыў змаганне народа за свабоду і незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны і за дзяржаўныя правы беларускай мовы, за беларускую школу, асвету, адукацыю, за беларускую кнігу, часопіс, газету... Усе гэтыя праблемы ўзнімаліся Янкам Купалам у самым пачатку XX стагоддзя. 9 ліпеня 1910 года пасля двухздзённай паездкі ў Фінляндыю Янка Купала напіша артыкул "Ці маем мы права выракацца роднай мовы", у якім скажа, што на планеце існуюць тысячы розных народнасцяў, а палацца кожная з гэтага мноства сваёй адвечнай уласнай мовай, бо мова – гэта "выразіцелька душы і думак чалавека".

На канферэнцыі вельмі многа ўдзялялася ўвагі гісторыі ўзнікнення, развіцця і станаўлення адной са старажытнейшых славянскіх моў – мовы беларусаў, яе ўзлётаў і трагічных занепадаў, яе ролі ў станаўленні суседніх славянскіх моў. І гэта не выпадкова, бо мова народа, як сказала Вольга Іпатава, - гэта кроў усяго народнага арганізма. Пульсуе гэтая кроў, здаровая яна, тады і ўвесь арганізм пачувае сябе нармальна, паўнацэнным. На вялікі жаль, сёння гэтая асноўная сіла арганізму не мае магчымасці існаваць нармальна. І многія беларусы перажываюць тую стадыю, калі хвароба не выяўляе сябе, але няўмольна разбурае арганізм увесь і да рэшты... І ці не пара сёння ставіць дыягназ і спешна лячыць хваробу. А каб наш народ ачуняў, ён павінен ведаць гісторыю ўзнікнення нашай мовы хоць у агульных рысах, ганарыцца ёю і берагчы, як добры сын беражэ і шануе сваю маці.

На вялікі жаль, мала хто з беларусаў ведае, што наша мова вельмі старажытная. Пачатак бярэ з дахрысціянскіх часоў. Удзельнік V Міжнародных Купалаўскіх чытанняў Станіслаў Суднік сваім выступленнем пераконвае нас, што беларуская мова мае пацверджанне свайго існавання яшчэ ў 2300 годзе да нашай эры, што ў далёкай старажытнасці яна была адной з нямногіх міжнародных моваў побач з такімі, як лаціна, грэчаская, санскрыт, арабская, мангольская, ханьская. Міжнароднае бытаванне беларускай мовы ўзбагаціла яе лексіку, але і наша мова ўплывала на станаўленне многіх суседніх моваў: польскую, украінскую, жамойцкую, маскоўскую.

У 13-14 стагоддзях беларуская мова як дзяржаўная мова ВКЛ была адзінай пісьмовай мовай ва ўсім славянскім свеце, бо каталіцкае славянства ў тыя часы карысталася лацінаю на пісьме, а ўсходняе славянства, захопленае татара-манголамі, захавала толькі царкоўна-балгарскае рэлігійнае пісьменства.

Дасягнуўшы незвычайных вынікаў у сваім развіцці, стаўшы мовай статутаў, грамат, Бібліі, мастацкіх шэдэўраў, здавалася, гэтай мове нічога не пагражае. Але настаці цяжкія гістарычныя часы, беларуская мова перажывае часы забароны і занепаду, якія абярнуліся стратай пісьменства для цэлага народа. І праз стагоддзі давялося пачынаць усё спачатку. Прыстасоўваючы то лацінку, то кірыліцу, беларусы пачалі фармаваць новую пісьмовую традыцыю, заснаваную на жывой народнай мове. З часам вярнулася пісьменства да беларусаў, а восць абуджэнне свядомасці набыло зацяжны характар. І толькі ўздым рэвалюцыйнай хвалі ў пачатку XX стагоддзя паскорыў гэты працэс. І 20-я гады XX стагоддзя ўвайшлі ў гісторыю як чарговы этап адраджэння ўсяго нацыянальнага ў нашым краі. Беларусы перажывалі небывалы ўздым у развіцці навукі, культуры, літаратуры і мастацтва, кнігавыдавецкай справы... Аднак у 30-я гады і пасля вайны 1941-1945гг. статус беларускай мовы быў абмежаваны, што адбілася ў першую чаргу на свядомасці вялікай часткі беларускага насельніцтва. Менавіта ў гэтыя дзесяцігоддзі частка беларускага насельніцтва стала дэнацыяналізаванай. У канцы 80-х гадоў узнялася новая хваля адраджэння, якая за кароткі час ахапіла ўсе цывілізаваныя інфраструктуры. Асаблівасцю чарговага адраджэння было тое, што актыўна адраджалася гісторыя народа і гісторыя яго мовы. Народу вярталіся імёны сыноў-патрыётаў, што сталі ахвярамі розных рэжымаў, народу вярталіся яго спрадвечныя гістарычныя сімвалы, з'явілася вялікая колькасць літаратурных твораў на гістарычныя тэмы, мноства навукова-папулярных артыкулаў пра знакамітых гістарычных асоб і іх дзейнасць, пра ўзнікненне гарадоў і паходжанне іх назваў, гербаў, нарэшце з'явіліся грунтоўныя навуковыя дапаможнікі па гісторыі Беларусі, якія сталі асновай для стварэння падручнікаў, а напрацоўкі вучоных далі магчымасць распачаць выданне Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (1 том выйшаў у 1993 г.), а ў 1994 годзе нас парадавала "Энцыклапедыя беларускай мовы" – першае выданне такога тыпу ў гісторыі нацыянальнай культуры. У тыя ж гады, у пачатку 90-х, вучонымі шмат рабілася, каб беларусы ведалі гісторыю нацыянальных колераў і сваю нацыянальную геральдыку, бо гэта мае далёка не апошняе значэнне ў абуджэнні самасвядомасці беларусаў. Менавіта тады з'явіўся артыкул Міхася Ткачова "Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя", у якім згадвалася і пра першае ўпамінанне герба "Пагоня" ў 13 стагоддзі, і пра тое, што герб мае вялікі перыяд гісторыі ўзнікнення. А пачатак яго ляжыць у старажытнай усходнеславянскай традыцыі абароны бацькоўскага дома, Айчыны, сягае ў родаплемянны перыяд і раскрывае нам сёння самы характэрны бок тагачаснага жыцця і побыту, калі кожны нёс клопат і адказнасць за жыццё свайго суплямення: калі ворагі нападалі на паселішча і захоплівалі ў палон жыхароў, то кожны мужчына, які меў права насіць зброю, павінен быў пешшу ці конна кінуцца ў пагоню за ворагам і адбіць паланёных. Звычай гэты пражыў стагоддзі. Пра яго апавядаецца ў Іпацеўскім летапісе, апісваючы "пагоню" берасцейцаў за польскім аддзелам у 1280 годзе, які ваяваў каля горада і "паваяваў" па рацэ Кросне дзесяць вёсак. Са здабычаю і з палоннымі аддзел рушыў назад. Берасцейскі ваявода Ціт з 70 жыхарамі горада ўчыніў пагоню. Летапіс гэтую падзею так апісвае: "Берестьяни же собрашася и гнаша по них.. и токо угонивше их и бишася с ними. Божиею же милосью победиша Берестьяне Ляхи и убия их 80, а другия поимаша, а полон свой отполониша. И тако придоша во Берестии со честью, славяще Бога и пречистую его Матерь во вся века".

У бытнасць ВКЛ, калі бясконца трэба было бараніць сваю дзяржаву ад крыжакоў, стаяць заслонам супраць хіжацкіх набегаў крымскіх татараў, традыцыя народнай пагоні пачала ператварацца ў ідэалагічны знак эпохі. А пад уплывам еўрапейскай геральдыкі з часам увасобіўся ў графічны сімвал-герб "Пагоня". Упершыню пра гэты герб беларуска-літоўскія летапісы і хронікі паведамлялі каля 1270 года. Спачатку ён узнік як княжацкі і гарадскі герб у старажытным беларускім горадзе Навагарадку (Навагрудку). У летапісах Рачынскага, Альшэўскага, Румянцаўскага, у "Хроніцы Быхаўца" герб апісваўся так: "Человек на кони з мечом, ... хто бы мог боронити мечом Отчизны своее...". Апісанне пячаткі ў тых жа помніках было наступным: "Рыцар збройны на коне...". Вельмі сімвалічна і тое, што крыж на старажытнай "Пагоні" дакладна адпавядаў святыні Полацкай зямлі – славутаму крыжу Ефрасінні Полацкай. І толькі пасля Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. крыж на геральдычным шчыце зрабіўся роўнаканцовым ці падвойным.

Герб і сцяг ВКЛ мелі чырвона-белы колеры. Герб меў выгляд чырвонага шчыта з белай "Пагоняй". Бел-чырвона-белы сцяг зафіксаваны ўпершыню на мастацкай карціне невядомага мастака, што адлюстраваў бітву пад Оршай 1514 года (карціна захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве). Дарэчы, папярэдне ў ВКЛ былі сцягі двух колераў: белы і пурпуровы. Але пасля яны былі заменены на трохпалосы бел-чырвона-белы сцяг, дзе даміную белы колер – асноўны колер герба, а чырвоная паласа сімвалізуе колер геральдычнага шчыта.

Асобна хочацца згадаць і пра нашы нацыянальныя колеры (белы і чырвоны). Пачатак іхняе гісторыі адносіцца да часоў індаеўрапейскай супольнасці, калі большасць плямёнаў шанавала два колеры – белы і чырвоны, бо яны сімвалізавалі чысціню і вечнае жыццё. Асаблівa з павагай да іх ставіліся славяне і лічылі гэтыя колеры святымі. На пачатку белы і чырвоны колер былі асноўнымі колерамі іх адзення, а пазней чырвоныя вышытыя ўзоры, тканыя і плеценыя паясы адыгрывалі ролю абярогаў.

На вялікі жаль, з канца 18 стагоддзя і да канца 1863 года выкарыстанне на беларускай зямлі яе старажытных сімвалаў было немагчымым, а вярнула іх да жыцця паўстанне 1863 года на чале з Кастусём Каліноўскім. І тут трэба адзначыць, што ўлады часам бяруць на сябе замнога, забараняючы нацыянальныя сімвалы. Іх жа знішчыць немагчыма, бо яны маюць трывалую традыцыйную аснову і жывуць у свядомасці нацыі, а таму яны – неўміручыя.

У публікацыях канца 80-х гадоў была асветлена яшчэ адна вельмі важная праблема: чаму гісторыкі доўгі час лічылі, што ў беларусаў ніколі не было гістарычных сімвалаў? Справа ў тым, што такое меркаванне панавала ў гісторыі ў выніку няправільнай падачы ўзаемадачыненняў Беларусі і Літвы. Пэўны час у савецкіх падручніках па гісторыі Беларусі сцвярджалася, што Беларусь была заваявана літоўцамі. Але гэта зусім не так. Гістарычныя дакументы сведчаць, што ў XIII стагоддзі, ратуючыся ад рыцараў-крыжакоў з захаду і ад татара-манголаў з усходу, землі Беларусі і Украіны аб'ядналіся з Літвою і ўтварылі ВКЛ на аснове дыпламатычных і палітычных пагадненняў, галоўным прынцыпам якіх было наступнае: "Не рухать старины, не вводить новины". Так адбылася ўнікальная з'ява – утварэнне ў цэнтры Еўропы федэрацыі беларускага, літоўкага і украінскага народаў. Славянскі элемент у гэтай дзяржаве меў абсалютную перавагу (9/10 тэрыторыі і насельніцтва). Беларускія землі далі маладой Літоўскай дзяржаве магутны эканамічны падмурак, бо ў самой Літве ў той час гарадоў яшчэ не існавала, а на Беларусі іх было ўжо некалькі дзесяткаў – буйных цэнтраў ідэалагічнага і культурнага жыцця з добра развітымі рамяством і гандлем, з прававымі традыцыямі.

Многа яшчэ розных праблем было ўзнята на канферэнцыі: праблемы рэлігійных канфесій і іх стаўлення да нацыянальнай мовы, праблема нацыянальнай ідэі на сучасным этапе, пра помнікі дойлідства як сімвалы Беларусі, пра фармаванне "Народнай рэлігіі" і каляндара, пра шляхі кансалідацыі грамадства і адраджэння самасвядомасці беларусаў... Але ўсе ўдзельнікі канферэнцыі прыйшлі да адзінай высновы: беларуская мова – грунт нацыянальнай ідэі і аснова нацыі, а таму павінна свята захоўвацца яе канстытуцыйнае права быць дзяржаўнай мовай тытульнай нацыі.

**Бурбоўская Алена Уладзіміраўна,**
**вучоны сакратар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**



Пятро Русаў

# Аповесць пра словы

## У падтрымку "Аповесці пра словы"

Ізноў, праз колькі-та гадоў, выйшаў чарговы і доўгачаканы артыкул з "Аповесці пра словы" добра вядомага чытачам "Нашага слова" спадара Станіслава Судніка. Па праўдзе казаць, нарэшце, дачакаўся цікавых доследаў нашай моўнай спадчыны аднаго з тых беларускіх літаратараў, які насуперак многім абставінам смела і рашуча кінуўся ў акіян-мора словаў. Яно паглынае сваёй неабмернай глыбінёй таго, хто зацікавіўся праблемамі словаўтварэння, хто асмельваецца выказаць думкі іншымі чым магутныя "Зеўсы" ад філалогіі, якія пільна сочаць за тым, каб у навуцы не з'явіўся новы па канструкцыі і форме караблік вандроўніка слоў. С. Суднік растлумачыў сваё двухгадовае маўчанне з прычыны асэнсавання крытыкі ў яго бок, аб парушэнні ім усіх нормаў **"даследавання мовы і, будучы дылетанам у філалогіі, не маю права пісаць у такім ключы, каб артыкулы пра словы нагадвалі навуковыя"**. Пад час публікацыяў гэтых артыкулаў даходзілі і да мяне такія чуткі, але я не звяртаў на іх увагі лічачы, што распачатая праца С. Судніка неабходная для нашай роднай мовы. У многім згаджаўся з меркаваннямі аўтара, таму што і ў мяне былі матэрыялы якія адпавядалі сістэме падыходу, якую выкарыстоўваў С. Суднік. Але аб гэтым ніжэй. У сваю чаргу хацеў бы звярнуць увагу тых "крытыкаў" на тое, што не аднойчы гісторыя давала нам прыклады таго як значныя і новыя адкрыцці рабіліся энтузіястамі, якіх гарантаваныя навукоўцы называлі дылетантамі.

Можа вы, шаноўныя навукоўцы, калісьці таксама жадалі выкінуць з нашай гістарычнай спадчыны аднаго такога ж дылетанта не ў далёкім мінулым – М. Ермаловіча? Хто ўсур'ёз успрымаў школьнага настаўніка гісторыі, які некалькі гадоў таму выступаў з невялікімі дакладамі па гісторыі Беларусі? А цяпер, пасля выхаду яго грунтоўных прац, хто адважыцца кінуць камень у яго бок? Няма такіх. І не будзе. Таму што, каб змагацца з гэткім зубрам беларускай гісторыі трэба валодаць агромістымі ведамі па вялікай колькасці летапіснага матэрыялу. І на бліжэйшую будучыню на гарызонце не відаць адпаведнага ўзроўню М. Ермаловіча даследчыка, які бы лёгка апераваў летапіснымі крыніцамі і дзякуючы ім змястоўна асэнсоўваў нашую гісторыю.

Тыя, хто шчыра і самаахвярна працуе над невырашальнымі казалась бы праблемамі, значна дапоўнілі даследаваннямі і манаграфіямі паліцу навукі. Гэтыя паліцы яшчэ чакаюць беларускіх Архімедаў, Ньютанаў і Шліманаў.

І ўсё ж такі, як ацаніць тую працу, што робіць Станіслаў Суднік? Што гэта? Даследаванне мовы, не асобных аспектаў, ці моваўтваральных працэсаў? На гэта цяжка адказаць адразу таму, што спадар Суднік распачаў, але хутчэй за ўсё падняў з нябыту вельмі цікавую галіну ў гісторыі слоў. Тымі даследаваннямі слоў, якімі займаецца наш візаві, толькі злёгку дакрануліся у свой час рускія мовазнаўцы А.І. Афанасьеў і У. Даль. Але ім не трапіла дайсці некалькіх крокаў у кірунку пастаноўкі пытання, якое, безумоўна, ўзнікае перад кожным даследчыкам: Як і якім чынам развіваюцца словы, якія маюць агульныя індаеўрапейскія (а магчыма і даіндаеўрапейскія) карані? І што звязвае гэтыя словы ў мовах розных народаў, аддаленых непамернай адлегласцю у стагоддзі і тысячагоддзі на той вялікай зямной абшары, якая распасцерлася па Афра-Азіяцкім мацерыку? Значных поспехаў у гэтым кірунку дабіліся вядомыя даследчыкі В. В. Іваноў і Т.В. Гамгрэлідзэ. Але мы ведаем, што іх працы не многімі навукоўцамі ўспрымаюцца для ўважлівага выкарыстання ў навуковым аспекце. Распрацоўка В.В. Івановым і Т.В. Гамгрэлідзе асноў індаеўрапейскіх моў і іх магчымай прарадзімы, шляхоў развіцця мовы, яе распаўсюджвання, дала новы штуршок ў інадэўрапеістыцы. Грунтоўная падрыхтоўка гэтых даследчыкаў сказваецца на навуковым падыходзе да асноўгага матэрыялу іх вывучэння. Іх унёсак можна было б назваць распрацоўкай дыялектыкі асобных індаеўрапейскіх моў, у значэнні працэсу іх руху і развіцця. Але мова не кансерватыўная з'ява, як і навуковы падыход, што павінен таксама спрабаваць розныя варыянты яе вывучэння.

Адным з такіх варыянтаў, якім пачаў займацца С. Суднік, гэта з'яўленне слова, ці шэрагу слоў звязаных паміж сабой агульнымі гукавымі асаблівасцямі, сугучнасцю і моўнымі крыніцамі паходжання. Аднаўляючы слова, С. Суднік шукае аналагаў яго, абапіраючыся на сувязь каранёў з розных моў. Асноўнай методай, якой шырока ён карыстаецца, ёсць тлумачэнне паходжання слова на аснове пошуку гнязда слоў. Гэта найбольш прымальны для гісторыі мовы метад даследвання. Ён абапіраецца ў сваіх пошуках на словы, што выйшлі з аднаго гнязда, таго гнязда, ад якога пачалося пашырэнне моўных значэнняў у асэнсаванні той ці іншай з'явы, дзеяння, ці ўяўлення.

Можна прывесці прыклады як этымалогія, на якую абапіраліся шэраг даследчыкаў і дзякуючы менавіта ім, на працягу апошніх двух стагоддзяў паступова выпрацоўвала свае крытэрыі да падыходу вывучэння, з'яўлення і развіцця слоў. На прыкладзе вывучэння славянскай мовы, як мовы асобнага этнічнага носьбіта, навукоўцы шукалі запазычанасць ад іншых больш "культурных", альбо больш старажытных ў параўнанні са славянамі народаў. Успомнім, што спачатку гэта была грэцкая мова, як мова, што прыўнесла нам хрысціянства. Ацэньваючы усё тое, што дала нам навуковая думка даследчыкаў XIX ст. можна было б сказаць: мова славянская настолькі "узбагацілася" ад грэчаскай, што аніякага развіцця славянскай мовы як мовы вялікага этнасу не было. Вазьміце для прыкладу ўсе слоўнікі І. І. Сразнеўскага. Дык і не было такой асобнай славянскай мовы. У яго працах шторазкова робіцца параўнанне з грэчаскай, як тлумачэнне славянскай мовы, для тых свядомых, хто добра ведае грэчаскую. Але падспудна, як быццам паміж радкоў, недзе ў закуточку паўсвядомасці ўзнікае думка аб вялікай культуровай экспансіі грэчаскай мовы. А чаму ж няма параўнанняў з іншымі індаеўрапеяскімі мовамі? Дзе ж яны, вялікія індаеўрапейскія мовы? У адрозненні ад І. І. Сразнеўскага рускі даследчык А.І. Афанасьеў абапіраючыся на багацейшы пласт міфалогіі славянскіх моў, у сваёй большасці расейскай, яскрава і не крытыкуючы яго папярэднікаў і навукоўцаў таго часу, даказваў кожным радком адваротнае, што мова развіваецца з яе глыбінь, з даўніх часоў.

Відавочна, гэты факт безумоўны. Напрыклад, беларуская мова, як мова кожнага са славянскіх і суседніх, неславянскіх народаў, развівалася, нягледзячы на яе ўнутраны кансерватызм. Мы проста многае пра гэта не ведаем. Ці разумеў просты народ у мінулым іншамоўнае значэнне слоў, што выкарыстоўваліся свецкімі і духоўнымі носьбітамі моўнай культуры? Узгадаем летапісы і тыя ж самыя дакументы беларускіх гарадскіх магістратаў. Ці многа там народнага? Пісаліся яны навучанымі людзьмі, што валодалі, бадай, не адной мовай. Яны маглі выкарыстоўваць і замежныя словы ўжо трансфармаваныя да славянскай і літаратурна вядомыя, літаратурна апрацаваныя і прыстасаваныя да нейкіх лексічных шаблонаў і, нарэшце, старацаркоўныя. Магчыма, таму і не існуе да сённяшняга часу поўнай згоды даследчыкаў у тым, што ў беларускіх даўнейшых дакументах большасць слоў, падрэсліваю — большасць, адпавядаюць пачаткам, асновам беларускай мовы. Толькі знаходкі ў гэтых тэкстах асобных слоў стасуюцца з гутарковай беларускай мовай, той мовай што шырока распаўсюджвалася ў культуровым асяродку і стала, нарэшце, дзяржаўнай (дадзены выпадак не адносіцца да апошніх шасці гадоў), дзякуючы нашым славутным беларускім літаратарам XIX і XX ст. ст., той мовай, якая з'яўляецца прадметам дасканалага вывучэння.

Другая плынь, што пакінула сваю не вельмі багатую, але адчувальную істотнасць, прыўнесла сцвярджэнні і доказы ўздзеяння балтаў на славянскую мову. Разам з поспехамі археолагаў у адкрыцці матэрыяльных культур на вялікай абшары Усходняй Еўропы, пачалі развівацца і кірункі ўздеяння мовы балтаў на мову славянаў. Тое, што славяне суседзілі з балтамі і кроўна змешваліся з імі не адмаўляе ніводзін гісторык. Вялікі балцкі арэал, безумоўна, кантактаваў з моўнай славянскай крыніцай. Але дзе былі моўныя вытокі славянства, дзе радзіма праславянаў? У многім яшчэ гэтыя пытанні спрэчныя для навукоўцаў. Канчаткова яны не вырашаны і па сённяшні дзень.

Узнікае шэраг прапаноў аб з'яўленні славянаў на стыку германскіх, альбо кельцкіх плямёнаў з балтамі, ці германскіх і кельцкіх плямёнаў з балтамі. Гэтыя аспекты яшчэ толькі ў стадыі пачатковага разгляду і пакуль не даюць канчатковага адказу, як фармаваліся славянскія мовы. Што стала штуршком? Уплыў германскіх, кельтскіх альбо балцкіх народаў – невядома. Загадка за загадкай. Таму адказ на гэтыя пытанні спрабуюць вырашыць асобна гісторыкі, археолагі і лінгвісты. Але агульнае прамінулае гэтых розных і аднолькавых у індаеўрапейскай культуры груп не выклікае сумневу. Даследванне гнязда слоў дазволіць толькі наблізіцца да адказу на галоўнае пытанне: Адкуль і з якой крыніцы гістарычнага мінулага з'явіліся славяне.

Артыкулы С. Судніка адпавядаюць імкненню многіх даследчыкаў у пошуках тлумачэння паходжання слоў. Але выбраная ім метода не ўкладваецца ў пракруставае ложка аднаразовых параўнанняў, што шырока выкарыстоўваецца многімі даследчыкамі XX ст. Да аднадумцаў С. Судніка адношу сябе і аўтар гэтых радкоў. Форма пошуку гнязда слоў дае канкрэтныя вынікі. У маім сталe ляжаць некалькі артыкулаў гэтага кірунку. Адлежваюцца яны таму, што ў мінулым лічыў немэтазгодным друкаваць свае нататкі: час не даспеў, каб на невядомую глебу кідаць невядомае зерне. У верасні 1998 г. ў адным з Менскіх вузаў адбылася навуковая канферэнцыя. Кірунак тэмы адной з секцый супадаў са зместам майго матэрыялу, які і быў прапанаваны для абмеркавання і публікацыі. Але прайшло ўжо тры гады, а матэрыялы канферэнцыі так і не былі надрукаваныя. Прапаную надрукаваць ў "Нашым слове" матэрыял, часткай якога быў артыкул канферэнцыі для таго, каб чытач убачыў і ацаніў, што падыход у даследаваннях С. Судніка сугучны з маім. Магчыма, што некаторыя месцы майго артыкула будуць супадаць, але яны распрацоўваліся да таго як быў надрукаваны матэрыял С. Судніка і гэта сведчыць аб тым, што кірункі нашых разважанняў супадалі.

Узгадваю, як у 1998 г. пасля гэтай канферэнцыі тэлефанаваў С. Судніку і запытваўся у яго адносна выказанай ім у напярэдадні надрукаваным артыкуле газеты "Наша слова" думкі распачаць разгляд слова "каса". Цікавіўся яго меркаваннямі адносна пункту гледжання на паходжанне адзначанага слова таму, што ў мяне ўжо быў распрацаваны матэрыял, які таксама разглядаў тоеж слова ў ключы гнязда слоў. Затым у кастрычніку і лістападзе ў №№40-43 "Нашага слова" з'явіўся матэрыял С. Судніка з даволі шырокім каментарам і тлумачэннямі. Змест быў цікавы, але шматлікія значэнні слова "каса" не былі раскрытыя поўнасцю. Гэта сведчыла, што нашая мова багацейшая, што на даследаванне сугучных слоў аднаго гнязда неабходна яшчэ мноства намаганняў, многіх даследчыкаў.

У 1994 г. у в. Шылавічы Чачэрскага райна Гомельскай вобласці запісаны карагод **"Заінька"**:

***Заінька з лесу йдзёт,***
***Шэранькі з лесу йдзёт.***
***Ой, да кося, з лесу йдзёт.***
***Заінька, зайдзі к нам,***
***Шэранькі, зайдзі к нам.***
***Ой, да кося, зайдзі к нам.***
***Заінька, памыйся,***
***Шэранькі, памыйся,***
***Ой, да кося, памыйся.***
***Заінька, прычашысь.***
***Заінька, прычашысь.***
***Ой, да кося, прычашысь.***
***Заінькі, ідзі к Дунаю,***
***Шэранькі, ідзі к Дунаю,***
***Ой, да кося, ідзі ў Дунай,***
***Каго хочаш – выбірай.***

У тэксце карагоду, у якасці звароту да зайца выкарыстоўваецца слова ***"кося"***. Незвычайная мянушка зайца прыцягнула нашую увагу. У рускіх казках адносна гэтай жывёліны ўжывалася іншая – ***"косой" ("касы")***, якая магла абазначаць яго ўласцівасць, як касавокага, яго зрокавую характарыстыку, як зрачага наўскось. У беларускім карагодзе заяц надзелены магічнасцю, аднак падтэкст карагоду не дае тлумачэнняў адносна сэнсавых значэнняў эпітэту ***"кося"***.

Эпітэтам, як быццам сведчыўшым аб недахопе зроку, надзяляўся і чорт, прадстаўнік цёмных сілаў – ***"касы чорт"***. Такім жа эпітэтам узнагароджваюць і зайца, што гаворыць аб яго магічным, міфалагічным характары. Чорт быў уяўленнем цёмных, адмоўных сіл, што мела, несумненна, міфалагічнае адценне. Безумоўна, казачнасць зайца бярэ пачатак яшчэ з далёкіх паганскіх часоў. Вядома, што заяц быў адным з прадстаўнікоў міфалагічнага свету паганіх боствай у балтаў.

Да пошукаў значэння *касы* звернемся да значэнняў слова ***"касы"*** вызначаных рускім мовазнаўцам У. Далем: *адхіленне ад наўпроставага становішча, не просты (крывы), які мае форму вугла, кліна, пад вуглом.* Яны адносяцца не толькі да прадметаў, але і да чалавека, і іх аналіз сведчыць, што суаднесены да фізічнага стану і формы прадмета, асобы і з'явы. Слова ***"касы"***, ахарактарызаванае У. Далем, можна была бы аднесці і да мянушкі зайца.

Як і ў прыведзеным вышэй карагодзе, у беларускіх народных творах ужываўся падобны зварот да каня: ***"кося"***. У рускай гаворцы ***"кось-кось"*** была прызыўным заклікам да жарабят, так жа, як і ў беларускай.

У летапісах зафіксавана слова, блізкае па вымаўленню словам ***"кося"*** і ***"касы"*** – ***"коўсый"*** ў значэнні *"з абсечаным хвастом"*, *"кургузы"*. Існуе выраз – ***куцахвосты***. Слова ***"куцы"*** азначае, што хвост кароткі таму што абрэзаны. Шчанят сабакі завуць ***куцяня, куцёнак***. Таго ж роду і словы ***коцік, кацяня***, але скарочанае і вытворнае ад яго – ***"кот"***.

